**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 48 (869) 1 снежня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Белыя сыплюцца долу крышталікі,
Белыя крышацца хмаркі ўгары.
Сосны захутаны ў белыя шалікі.
Белая мітусь у белым бары.

Белая, мяккая ціша няхрусткая,
Белай дрымотай спавіты кусты.
Белая казка... Зіма беларуская...
Што ж мне не дорыш снягурачку ты?..
*Ніл Гілевіч*



**Зіма ўсё ж прыйшла! Вуліца Шпітальная ў Глыбокім.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*



## Асуджаны за крадзеж жыхар Глыбокага, які спрабаваў збегчы ў Латвію

**25 лістапада ў 1,5 кіламетрах ад дзяржаўнай мяжы на аўтадарозе Браслаў – Даўгаўпілс у Браслаўскім раёне быў затрыманы 21-гадовы хлопец без якіх-небудзь дакументаў, які спрабаваў парушыць мяжу з Латвіяй.**

Як сталася, гэта жыхар Глыбокага, які быў асуджаны за крадзеж да двух гадоў абмежавання волі з адбываннем пакарання ў выпраўленчай установе. 28 лістапада ён павінен быў з'явіцца да месца адбывання пакарання, але замест гэтага спрабаваў нелегальна перабрацца ў ЕС.

За парушэнне дзяржаўнай мяжы і памежнага рэжыму глыбачаніна падвергі адміністрацыйнаму штрафу. Пасля гэтага парушальнік быў перададзены супрацоўнікам міліцыі, паведамляе прэс-служба ГПК.

***ННВ.***



ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10048

**Аршанскі раён**

# Раўненне на малую радзіму

■ Станіслаў Раманчук.

**Нягледзячы на ўсе намаганні, у Беларусі працяглы час не атрымоўваецца выйсці на эфектыўную работу ў вёсцы і зрабіць жыццё там прыцягальным для моладзі.**

Гэтыя праблемы зноў узнімаліся падчас нядаўняй рабочай паездкі А. Лукашэнкі на яго малую радзіму ў гарпасёлак Копысь Аршанскага раёна. Прэзідэнт там правёў рабочую нараду аб далейшым развіцці вёскі і перспектывах малых населеных пунктаў у бліжэйшыя гады. Кіраўнік дзяржавы тут нарадзіўся, а цяпер спачатку пацікавіўся, як выглядае былы керамічны ўчастак ААТ "Оршабудматэрыялы". Па ягоным даручэнні замест яго стварылі ганчарную майстэрню новага Цэнтра народнай творчасці і рамёстваў. Аднак сам цэнтр выжывае толькі за кошт бюджэтных сродкаў, самастойна зарабляе толькі 11 % сродкаў ад продажу сваёй прадукцыі. Два гады адвялі яго ганчарам і майстрам на тое, каб выйсці на самаакупаемасць. А вось мясцовым жыхарам пашчасціла значна болей, бо Копысь вырашылі зрабіць узорам для ўсёй краіны ў плане інфраструктуры і належнага добраўпарадкавання. На гэта не пашкадуюць 58 млн. новых рублёў, прычым першы этап работ павінен завяршыцца ўжо да 1 чэрвеня 2017 года. У гарпасёлку загадалі навесці ідэальны парадак без шалёных затрат, а ад душы. Таксама абновяць вулічную дарожную сетку, стане не пазнаць набярэжную левага берага Дняпра са спускамі да вады, Пятроўскі вал пасля рэстаўрацыі. У генплан уключылі таксама экалагічную сцяжынку, парк з прычалам і пляжамі і нават новую аб'язную дарогу, а сам пасёлак павінен стаць падобным на еўрапейскі культурна-дзелавы цэнтр. Родныя мясціны так паўплывалі на главу дзяржавы, што ён потым даручыў у 2017 годзе зноў вярнуць сярэднюю зарплату на ўзровень 500 долараў.

**Пастаўскі раён**

# Будучае ў тумане

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам чамусьці у многіх вытворцаў з глыбінкі пачаліся чорныя перыяды ў іх дзейнасці.**

Вось і ў Пастаўскім раёне непрадбачаныя праблемы напаткалі адразу два прамысловыя прадпрыемствы з райцэнтра. Для мясцовага льнозавода акрамя даўняй праблемы з пастаўленай бельгійскай лініяй гэты год быў багаты на прыродныя катаклізмы. З-за зацяжных дажджоў вясной, потым засухі, летніх ураганаў і зноў неспрыяльнага надвор'я завадчанам прыйшлося спісаць 7 % земляў з пасеяных участкаў на плошчы 2 тысячы гектараў, раскіданых па ўсяму раёну. Мехатрад завода пастараўся справіцца з цяжкасцямі, назапасіў льностарсты амаль 5400 тон, якой хопіць да сярэдзіны наступнага года. Аднак з-за неналежнай вылежкі колер трасты атрымаўся з рыжаватым адценнем, Аршанскі льнокамбінат не бярэ такое валакно, а рэалізоўваць яго іншым партнёрам пастаўчанам пакуль не дазваляюць. Трывожная сітуацыя склалася і на мясцовым заводзе "Беліт", дзе з новага года не па сваёй віне звыш двухсот чалавек могуць стаць беспрацоўнымі. Самае крыўднае, што гэта прадпрыемства мае заказы наперад на паўгода на сваю тэхнічную сурветку на прасторах СНД і ў Еўропе, стала буйным экспарцёрам, працуе паспяхова, але апынулася на мяжы закрыцця. На жаль, з-за знаходжання ў мытным саюзе з Расіяй з 1 студзеня 2017 года скасоўваюцца льготы для "Беліта" ў свабоднай эканамічнай зоне "Віцебск" і завозімую з Еўропы сыравіну пачнуць абкладаць непамернымі пошлінамі. Гэтым праблемным пытаннем займаюцца і на рэспубліканскім узроўні, але становішча рашэння для простых людзей пакуль няма.

**Полацкі раён**

# Рэцэпт перамог просты

■ Чэслаў Якубовіч.

**У паўсядзённым жыцці дабіцца поспеху можна толькі тады, калі гэтага моцна захацець і многа настойліва працаваць.**

Гэту простую ісціну пастараўся днямі давесці праслаўлены савецкі спартсмен Аляксандр Ціханаў, які стрымаў сваё абяцанне і прыехаў на сустрэчу з выхаванцамі Наваполацкага дзяржаўнага вучылішча алімпійскага рэзерву. Легендарнага біятланіста, чатырохразовага алімпійскага чэмпіёна летась запрасілі прыехаць сюды на "Гонцы легенд" у Раўбічах. Зорка сусветнага спорту адразу ў вучылішчы адправіўся на трэніроўку пачынаючых біятланістаў, пагутарыў з трэнерамі, даў ім шэраг карысных парад. Госць пазнаёміўся з музеем спорту, матэрыяльна-тэхнічнай базай, парадаваўся за нядрэнныя ўмовы падрыхтоўкі маладых атлетаў. Сустрэча з навучэнцамі вучылішча атрымалася шчырай і хвалюючай. Уладальнік 11 залатых медалёў на чэмпіянатах свету расказаў, што ў дзяцінстве ён адставаў у фізічным развіцці ад аднагодкаў, меў праблемы з сэрцам, але дзякуючы моцнаму характару і рэгулярным заняткам фізкультурай не толькі паправіў здароўе, але пераадолеў шмат перашкод, траўм, паражэнняў і дабіўся ажыццяўлення сваіх мараў. Гэты цікавы чалавек акрамя ўсяго мае яшчэ 8 аўтарскіх пасведчанняў на дапрацоўцы стралковай спартыўнай зброі. Яму падабаюцца беларусы як людзі. Адзін з лепшых спартсменаў свету нават прызнаўся, што збіраецца пераехаць пастаянна жыць у Мінск і хоча з айчыннымі спецыялістамі стварыць у Раўбічах музей сусветнага біятлону.

# Аб самым надзёным

## БЕЗНАДЗЕЙНА СТРАТНЫЯ, НЕПЛАЦЕЖАЗДОЛЬНЫЯ КАЛГАСЫ ДАЧАКАЛІСЯ Ў БЕЛАРУСІ ПРАЦЭДУРЫ БАНКРУЦТВА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**У рэальнасці толькі лічаныя гаспадаркі ў рэгіёнах жывуць і працуюць устойліва на зямлі, маюць нейкую перспектыву. А вось цяпер, у адрозненне ад іх, цэлую сотню гаротных сельгаспрадпрыемстваў чакае непрыемная працэдура прызнання банкрутамі з непазбежнай на працягу года ліквідацыяй.**

Традыцыйна напрыканцы восені штогод у нашай краіне адзначаецца прафесійнае свята работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці АПК. Аднак сёлета для многіх вясковых механізатараў, даярак, брыгадзіраў і спецыялістаў гэты дзень быў яшчэ больш сумным і не толькі з-за кепскага надвор'я ў гэту пару года. Непрыемным сюрпрызам для іх стала рашэнне напярэдадні ўрада Беларусі пачаць у адпаведнасці з летнім прэзідэнцкім Указам № 253 "Аб мерах па фінансавым аздараўленні сельскагаспадарчых арганізацый" вымушаную працэдуру прызнання 102 айчынных гаспадарак банкрутамі. Такое рашэнне нават крыху прыпазнілася, бо яго належыла падрыхтаваць яшчэ да 1 кастрычніка.

У гэты спіс гаротнікаў патрапілі толькі на Віцебскай вобласці 16 калгасаў з 10 раёнаў. У Прыдзвінні раней Эканамічна суд ужо прызнаў эканамічна недзеяздольным Гарадоцкі райаграснаб, а цяпер яго калегамі па няшчасці стануць яшчэ падобныя райаграсервісы ва Ушачах і Шуміліне. Як вядома, гэты ўрадавы дакумент дапоўнілі таксама яшчэ 323 сельгаспрадпрыемствы краіны, якія падлягаюць дасудоваму аздараўленню, сярод якіх шмат нашых віцебскіх. Дарэчы, хоць да нядаўняга часу ў нас хваліліся дасягнутай харчовай бяспекай і ростам колькасці аграгарадкоў, аднак праблем на вёсцы было багата здаўна. Да прыкладу, у той жа самай Віцебскай вобласці яшчэ ў пачатку XXI стагоддзя налічвалася 416 стратных гаспадарак, альбо 82 % да іх тагачаснай колькасці.

За апошнія тры пяцігодкі ў гэтай сферы сітуацыя, калі і змянілася, то ў яшчэ горшы бок.

Калі па выніках дзейнасці ў студзені-жніўні 2015 года ў Беларусі налічвалася 215 стратных гаспадарак (15,1 % ад агульнай колькасці), то сёлета стала ўжо 348 такіх сельгасарганізацый, альбо кожная чацвёртая з дзеючых. Нават А. Лукашэнка перад кіраўнікамі раёнаў нядаўна паставіў стратэгічную задачу: " поезжайте туда, где плохо… в каждом районе есть одно-два сельхозпредприятия, которые требуют к себе пристального внимания". На самой справе гаротнікаў значна болей, але кіраўнік дзяржавы, як спрактыкаваны палітык, навучыўся публічна супакойваць грамадскасць, паколькі рэальнае становішча вясковых спраў на месцах даволі сумнае.

Па афіцыйных дадзеных Белстата, зараз амаль 60 % айчынных гаспадарак ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі, паколькі працуюць з рэнтабельнасцю прадаж прадукцыі палёў і ферм ад 0 да 5 %. Не сакрэт, што менавіта сельская гаспадарка Беларусі разам з лясной сталі лідарамі па даўгах па зарплаце, якія рэгулярна затрымліваюцца (на Віцебшчыне штомесяц было па 100 і болей даўжнікоў). Заробкі ў многіх вяскоўцаў сталі проста мізэрнымі, замест грошай яны вымушаны браць натурпрадукцыю ў мясцовых магазінах. У выніку беларусы цяпер даведаліся афіцыйна, што ў краіне ўжо 425 праблемных сельгасарганізацый, а гэта фактычна кожнае трэцяе з іх.

Шчыра кажучы, наша дзяржава апошнім часам усяляк імкнулася дапамагаць працаўнікам калектыўнай сельскай гаспадаркі. У гэту сферу ўліванні перавысілі 50 млрд. долараў, было пабудавана 118 буйных малочнатаварных комплексаў, сюды накіравана столькі новай сельгастэхнікі. Таксама па краіне абнавілі і сацсферу на вёсцы, дзе з'явіліся ў кожным раёне да дзесяці аграгарадкоў. І вось дзіўна чытаць у спісе банкрутаў менавіта такія аграгарадкі. Не спрацавала і ідэя далучаць вельмі стратныя гаспадаркі да багатых прадпрыемстваў, банкаў, малзаводаў, птушкафабрык і нават да Беларускай чыгункі.

У рэальнасці толькі лічаныя гаспадаркі ў рэгіёнах жывуць і працуюць устойліва на зямлі, маюць нейкую перспектыву. А вось цяпер, у адрозненне ад іх, цэлую сотню гаротных сельгаспрадпрыемстваў чакае непрыемная працэдура прызнання банкрутамі з непазбежнай на працягу года ліквідацыяй. У такія калектывы, як чакаеца, прыдуць антыкрызісныя ўпраўляючыя з задачай пагасіць як мага болей ранейшых набраных даўгоў. Калі побач з праблемнымі калгасамі працуюць болей-менеей нармальныя гаспадаркі, то ў талковых работнікаў, у якіх няма шкодных звычак і цягі да алкаголю, ёсць шанц перайсці туды працаваць, калі знойдзяцца вакансіі. Лепшыя землі гаротнікаў таксама могуць перайсці да паспяховых суседзяў.

Цікава будзе паглядзець, які лёс наканаваны для трох соцень калектываў на вёсцы, якім дзяржава дала чарговую магчымасць стаць на ногі ў выглядзе дасудовай санацыі. Ці ўдасца ім стаць зноў плацежаздольнымі залежыць ад многіх фактараў, але сумненняў, што гэта ідэя спрацуе, хапае, бо тыя ж бізнес-планы, напісаныя яўна ў спешцы падчас напружанай пары жніва, могуць застацца толькі намерамі на паперах. На беларускай зямлі няма галоўнага: на ёй няшмат жыве і працуе сапраўдных гаспадароў. У нас шмат гадоў многія там кіраваліся правілам, што "ў калгасе добра жыць, адзін робіць – сем ляжыць", а ў выніку дачакаліся такіх вось непрыемных вынікаў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 01.12.16 | | | | Пятніца 02.12.16 | | | | Субота 03.12.16 | | | | Нядзеля 04.12.16 | | | | Пан. 05.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +1 | 0 | -3 | -2 | -3 | -3 | -5 | -4 | -4 | -5 | -5 | -4 | -6 | -6 | -6 | -3 | -6 | -5 |
| Ціск | 739 | 739 | 738 | 734 | 731 | 731 | 733 | 733 | 736 | 738 | 741 | 742 | 745 | 747 | 747 | 745 | 746 | 747 | 750 |
| Вецер м/сек | 4 З | 5 З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 3 Пд-У | 2 Пн-У | 3 У | 3 Пн | 3 Пн | 3 Пн | 2 Пн | 2 Пн-У | 1 Пд-З | 2 Пн-З | 5 Пд-З | 4 Пд | 2 Пд-У | 1 Пд | 3 У |
| Вільготнасць | 95 | 93 | 91 | 97 | 95 | 95 | 94 | 99 | 92 | 90 | 90 | 92 | 97 | 98 | 98 | 97 | 97 | 96 | 98 |

## Дзень за днём

**Урад Беларусі пачаў рыхтавацца да росту беспрацоўя. Замежным грамадзянам стала немагчыма праехаць транзітам праз Беларусь у Расію. У 4 разы да 0,8 млн. кв. м скараціліся ў Беларусі аб'ёмы будаўніцтва жылля з дзяржпадтрымкай. Для абароны інтарэсаў айчынных вытворцаў увялі ліцэнзаванне экспарту драўніны. У сусветным рэйтынгу квітнеючых краін Беларусь апусцілася на 98-е месца. Кожны дзясяты беларус не прайшоў тэхагляд аўтамабіляў. Пачаў дзейнічаць рэжым бязвізавых паездак у Бразілію. Стогадовы рубеж пераадолелі 464 беларусы, з іх 65 мужчын.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** На самых непрадказальных у навейшай гісторыі краіны выбарах прэзідэнта нечакана перамог 70-гадовы мільярдэр Дональд Трамп, адразу ўпалі цэны на нафту.

**Бельгія.** Глава ЕС Жан-Клод Юнкер заявіў пра непазбежнасць стварэння еўрапейскай арміі з-за магчымай адмовы новых улад ЗША ў цесным ваенным супрацоўніцтве.

**Расія.** Лідар КПРФ Г. Зюганаў заявіў, што з-за непростых адносін да рускіх у свеце і на фоне падзей у ЗША выбары прэзідэнта РФ могуць адбыцца раней запланаванага тэрміну.

**Англія.** Прэм'ер-міністр Т. Мэй паабяцала ажыццявіць выхад з ЕС у поўным аб'ёме, нягледзячы на рашэнне Высокага суда Лондана ўзгадніць працэдуру з парламентам.

**Ірландыя.** Ля расійскага пасольства ў Дубліне раскідалі акрываўленых лялек, аналагічная акцыя супраць авіяўдараў па Алеппа з манекенамі адбылася і ля дыпмісіі РФ у Англіі.

**Расія.** Прэм'ер-міністр Д. Мядзведзеў упершыню дапусціў змену ўлады ў Сірыі і выхад з пасады палітычным шляхам прэзідэнта Б. Асада, калі так вырашаць самі сірыйцы.

**Украіна.** Місія маніторынгу АБСЕ афіцыйна зафіксавала ў Данбасе больш 20 выпадкаў перасячэння граніцы з Расіяй аўтамабіляў з "грузам 200" з трупамі забітых ваенных.

**Кітай.** Улады краіны адправілі ў адстаўку адразу трох ключавых міністраў урада – фінансаў, грамадзянскай адміністрацыі і дзяржбяспекі без тлумачэння прычын адставак.

**Сербія.** СМІ краіны паведамілі аб дэпартацыі групы расіян за ўдзел ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту ў суседняй Чарнагорыі шляхам захопу Скупшчыны як ў Данецку.

**Арменія.** Старшыня парламента Нагорнага Карабаха А. Гулян пацвердзіў, што горны непрызнаны край зменіць сваю назву на рэспубліку Арцах, як было ў старажытнасці.

**ЗША.** Спецыялісты NASA сумесна з калегамі з Еўропы і Канады завяршылі зборку самага вялікага ў свеце касмічнага тэлескопа з дыяметрам асноўнага люстэрка 6,5 метра.

**Расія.** У трэцім па велічыні горадзе РФ Екацерынбургу афіцыйна аб'явілі эпідэмію ВІЧ, вірусам СНІДа там заразіўся кожны 50-ы гараджанін пераважна наркатычным шляхам.

**Літва.** Урад краіны выдзеліў 44 тыс. еўра на аднаўленне разбуранага надмагільнага помніка славутаму гетману ВКЛ Канстанціну Астрожскаму на месцы пахавання ў Кіеве.

**Германія.** Па просьбе родных у краіне пахавалі легендарнага клоўна, народнага артыста СССР А. Папова, які раптоўна памёр на гастролях у Растове-на-Доне на 87-м годзе жыцця.

**Расія.** Фонд па барацьбе з карупцыяй паказаў былую рэзідэнцыю Хрушчова ў цэнтры Масквы, у якой незаконна пасяліўся блізкі сябра Пуціна, мільярдэр Г. Цімчанка.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Вядучы эксперт МВФ у рэгіёне Б. Баккер папярэдзіў, што пры адсутнасці рэформ сітуацыя ў Беларусі яшчэ болей пагоршыцца, бо прыкмет аздараўлення эканомікі няма.

**Гродна.** Буйны вытворца ўгнаенняў "Гродна Азот" са стратамі 453 млрд. рублёў увайшоў разам з МАЗам і "Краснасельскбудматэрыяламі" ў тройку самых праблемных у краіне.

**Бабруйск.** Гендырэктар "Белшыны" А. Якаўлеў прызнаў, што недахоп абаротных сродкаў перашкаджае заводу з 10 тысячамі працуючых асвойваць новыя рынкі збыту прадукцыі.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі заявіў, што вярнуць беларусаў у светлае мінулае не выйшла, казённая эканоміка ў стагнацыі як пры Брэжневе з перспектывай калапсу.

**Жодзіна.** З-за няпростай сітуацыі са збытам прадукцыі на асноўным прадпрыемстве горада БелАЗе колькасць працуючых скарацілася ўжо на 2700 чалавек.

**Слонім.** Ужо 15 прадпрыемстваў і арга–нізацый раёна сталі стратнымі, заробкі ў рэгіёне знізіліся да 549 рублёў, большасць жа работнікаў атрымоўваюць на рукі па 200-300 рублёў.

**Мінск.** Пасол Беларусі ў Кітаі К. Руды заявіў, што беларуская эканоміка падае з-за адсутнасці рэформ і неспрыяльнага бізнес-клімату ў краіне, сілавога ціску дзяржавы.

**Астравец.** Карпарацыя "Расатам" змяніла кіраўніка будаўніцтва Беларускай АЭС, ім стаў Віталь Медзякоў, які раней узводзіў Растоўскую АЭС, графік работ тут будзе зменены.

**Мінск.** Беларусы будуць праводзіць з расіянамі, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, сумесныя ваенныя вучэнні, але пастараюцца не стаць пешкамі ў чужых гульнях з агнём.

**Ліда.** Гендырэктар "Лідскага піва" А. Мікшыс паскардзіўся на вялікія запазычанасці гандлёвых сетак на пастаўленую прадукцыю і зніжэнне аб'ёмаў піўнога рынку краіны.

**Мінск.** Калі ў Расіі няма цяпер грошай, як заявіў палітолаг А. Ягораў, то яна тым больш не павінна перашкаджаць пастаўкам беларускай прадукцыі на расійскі рынак.

**Гомель.** Ноччу ў пасёлку Паляна паблізу горада супрацоўнікі ДАІ прымянілі табельную зброю супраць напаўшых на іх пасля затрымання аўто бацькі з двума сынамі

**Ваўкавыск.** Былы эканаміст банка БелВЭБ падманула 19 чалавек, пазычыла ў знаёмых і радні больш 100 тысяч долараў, за махлярства ёй пагражае ад 3-х да 10 гадоў турмы.

**Бабруйск.** Вечарам на трасе М5 ля вёскі Баяры вадзіцель Renault на нерэгуліруемым пешаходным пераходзе збіў трох чалавек, былі паранены дзеці, загінула іх маці.

**Ліда.** Работнікі ЖКГ аднавілі заліты чырвонай фарбай помнік Леніну, яшчэ адзін манумент ідалу бальшавікоў раней тут выпадкова раскалоўся, іншаму Ільічу адбілі галаву.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Насельніцтву не прыйдзецца плаціць пеню за пратэрміноўку ЖКП з-за ўкаранення адзінай інфармсістэмы



■ БелТА

**Пасля таго як з аплатай у Беларусі ўстаноўлены памер пені за нясвоечасова або не ў поўным аб'ёме ўнесеную плату за жыллёва-камунальныя паслугі, плату за карыстанне жылым памяшканнем дзяржаўнага жыллёвага фонду або кампенсаваныя расходы на электраэнергію. Адпаведнае рашэнне замацавана пастановай Савета Міністраў ад 22 лістапада 2016 года нумар 946, паведамілі ў прэс-службе беларускага ўрада.**

Дакумент прыняты ў мэтах абароны правоў і законных інтарэсаў грамадзян у перыяд завяршэння работ па ўкараненні адзінай агульна-рэспубліканскай інфармацыйнай сістэмы па ўліку, разліку і налічэнні платы за жыллёва-камунальныя паслугі і платы за карыстанне жылым памяшканнем.

Згодна з пастановай, установлены пені ў памеры нуль працэнтаў для плацельшчыкаў жыллёва-камунальных паслуг, якія нясвоечасова і (або) не ў поўным аб'ёме ўнеслі плату за жыллёва-камунальныя паслугі, плату за карыстанне жылым памяшканнем дзяржаўнага жыллёвага фонду і (або) кампенсавалі расходы арганізацый, што ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду і (або) прадастаўляюць жыллёва-камунальныя паслугі, на электраэнергію, спажытую на асвятленне дапаможных памяшканняў і работу абсталявання, у тым ліку ліфтаў, у шматкватэрных жылых дамах: за верасень - з 26 кастрычніка па 5 лістапада; за кастрычнік - з 26 лістапада па 5 снежня; за лістапад - з 26 снежня бягучага года па 5 студзеня 2017 года.

Названыя дзеянні не распаўсюджваюцца на пратэрмінаваную запазычанасць па плаце за жыллёва-камунальныя паслугі, плаце за карыстанне жылым памяшканнем дзяржаўнага жыллёвага фонду, а таксама па кампенсаванні расходаў на электраэнергію, што ўтварылася на 1 кастрычніка 2016 года, 6 лістапада 2016 года, 6 снежня 2016 года і 6 студзеня 2017 года.

Пераразлік пені за нясвоечасова і (або) не ў поўным аб'ёме ўнесеную плату за жыллёва-камунальныя паслугі, плату за карыстанне жылым памяшканнем дзяржаўнага жыллёвага фонду і (або) кампенсаваныя расходы на электраэнергію за верасень 2016 года праводзіцца ў адпаведнасці з гэтай пастановай.

Залішне пералічаныя плацельшчыкам жыллёва-камунальных паслуг з улікам праведзенага пераразліку сумы пені залічваюцца ў лік будучай платы за жыллёва-камунальныя паслугі, платы за карыстанне жылым памяшканнем дзяржаўнага жыллёвага фонду і (або) далейшага кампенсавання расходаў на электраэнергію.

Пастанова ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання і распаў–сюджвае свае дзеянне на адносіны, што ўзніклі з 26 кастрычніка 2016 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Даследванні Мінпрацы і сацабароны выявілі, што ў вобласці найбольшая ў Беларусі празмерная занятасць работнікаў – 7,2 % ад агульнай колькасці работнікаў.

**Талачын.** Віцэ-прэм'ер урада Н. Качанава правяла ў райцэнтры рэспубліканскі семінар-нараду па развіцці сацсферы, рэкамендавала актыўней весці пазабюджэтную дзейнасць.

**Руба.** У раёне пасёлка паблізу горада адкрылі рух па новым транзітным для транспарту мосце даўжынёй 236 метраў праз раку Заходняя Дзвіна коштам 36 млн. новых рублёў.

**Чашнікі.** Мясцовае ПМК-26 выставіла на продаж на аўкцыёне свой стратны рыбгас "Новалукомльскі" з інкубацыйным цэхам, які быў далучаны да яе ў 2005 годзе.

**Лёзна.** З пачатку года на міграцыйны ўлік у Руднянскім раёне Расіі паставілі 740 беларусаў, штодзень на працу туды прывозяць суседзі аўтобусамі да 50 і больш лёзненцаў.

**Віцебск.** Падчас рэспубліканскай акцыі "Адновім лясы разам" у вобласці новыя дрэвы на пашкоджаных летняй стыхіяй участках пасадзілі сёлета на 201 гектары.

**Глыбокае.** Райпракуратура распачала крымінальную справу супраць дырэктара аднаго з гаспадарак раёна, які прысвоіў незаконна спісаную маёмасць сельгаспрадпрыемства.

**Браслаў.** У аграгарадку Каз'яны ўлады раёна сустрэліся з яго жыхарамі з нагоды рэарганізацыі базавай школы ў пачатковую, банкрутам прызналі ААТ "Новая Гвардыя".

**Бягомль.** На ажыўленай трасе М3 Мінск-Віцебск паблізу гарпасёлка сутыкнуліся тры фуры, рух на заснежанай дарозе быў паралізаваны ў абодвух напрамках.

**Гарадок.** Да 6 гадоў турмы пагражае 24-гадоваму прызыўніку, які не толькі ўхіляўсяадпрызыву ўармію, але і ўгнаў аўтамабіль у Езярышчы, здзейсніў злоснае хуліганства.

**Докшыцы.** Раніцай пры выездзе з вёскі Чачукі мікрааўтобус з Магілёва разагнаўся і лоб у лоб сутыкнуўся з "Опелем" 31-гадовага глыбачаніна, кіроўцы патрапілі ў рэанімацыю.

**Паставы.** Падчас моцнага снегападу днём на трасе Полацк – граніца Літвы паблізу вёскі Лукашова ў выніку ДТЗ загінулі студэнты ВНУ, брат з сястрой і іх маці з Докшыц.

**Мёры.** Па гарачых слядах міліцыя знайшла 63-гадовага злодзея з вёскі Горкі, які з дачнага доміка пенсіянеркі з Наваполацка скраў газавую пліту, 12 лістоў шыферу і бляхі.

**Полацк.** Глыбокай ноччу на пажары ў адным з прыватных дамоў райцэнтра загінулі 60-гадовы гаспадар з сужыцелькай, у Фарынава пацярпелі пенсіянер з дачкой і ўнукам.

**Лепель.** У райцэнтры за суткі выпала найбольш у вобласці, амаль палова месячнай нормы снегу, моцна засыпала таксама Бярэзінскі запаведнік, Сенненскі і Докшыцкі раёны.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# "Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый Докшыцкага раёна"

**Праект ЕС/ПРААН "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь". Ініцыятыва Міжнароднага экалагічнага грамадскага аб'яднання "Прырода і мы".**



**Алег Лысёнак,** МЭГА "Прырода і мы"



Мерапрыемствы МЭГА "Прырода і мы" ў Ваўкалатах.

Беларусь багатая не толькі сваёй архітэктурнай спадчынай, але і прыроднай. Па тэрыторыі Беларусі працякае некалькі буйных паўнаводных рэк, а таксама мноства малых рэк. Дагэтуль шматлікія з іх служаць важнымі транспартнымі артэрыямі, якія злучаюць беларускія гарады з іншымі краінамі і морамі. Беларускія рэкі прыцягваюць мноства турыстаў для адпачынку і рыбалкі. Докшыцкі раён зацікавіў наша аб'яднанне тым, што па яго тэрыторыі працякаюць такія рэкі як *Бярэзіна, Вілія, Сэрвач, Поня*, там знаходзяцца *воз. Сэрвач і Бярэзінскі запаведнік.* Унікальнасць у тым, што Бярэзіна цячэ ў Чорнае мора, а Вілія ў Балтыйскае.

З мэтай аднаўлення правоў і інтарэсаў мясцовага насельніцтва Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці ў сферы экалогіі нашым аб'яднаннем былі створаны і працуюць 11 грамадскіх экалагічных пастоў і 11 школьных экалагічных атрадаў для сумеснага выяўлення экалагічных праблем раёна, а таксама іх сумеснага вырашэння. Праца пастоў і атрадаў накіравана на навучанне дзяцей і моладзі экалагічнаму маніторынгу экалагічнага стану рэк і азёр раёна. Паляпшэнне экалагічнага стану раёна будзе спрыяць паляпшэнню турыстычнага і эканамічнага патэнцыялу рэгіёна. Як вынік – паляпшэнне якасці жыцця мясцовых жыхароў.

Для паляпшэння экалагічнага становішча рэгіёна на тэрыторыі 11 сельскіх выканкамаў лабараторыяй МЭГА "Прырода і мы" была праведзена грамадская экалагічная экспертыза рэк і азёр. Яна выявіла праблемы. Развіваць патэнцыял сельскіх тэрыторый Докшыцкага раёна трэба праз практычнае вырашэнне назапашаных экалагічных праблем. Для таго, каб вырашыць праблему, яе спачатку трэба выявіць, а затым ухіліць. І ўхіляць трэба не на паперы, не на канферэнцыях і трэнінгах, а канкрэтнай практычнай працай: уборкай звалак, ачысткай вадаёмаў і крыніц, абсталяваннем экалагічных сцежак, зон адпачынку, пасадкай дрэў, уборкай паркаў, стварэннем новых дэндрапаркаў.

У рамках Мясцовай ініцыятывы рэалізаваны наступныя мерапрыемствы:

**Ваўкалацкі сельскі выканаўчы камітэт.**

Створаны Валкалацскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад, якімі ўвесну была праведзена экспертыза *ракі Патачанкі* пад кіраўніцтвам Кушаль Вольгі Францаўны. У выніку экспертызы вады з дадзенай ракі было выяўлена перавышэнне іёна амонія ў 2,585 раза і перавышэнне ХПК (хімічнае спажыванне кіслароду) у 1,13 раза.

Створана і ўладкавана экалагічная сцежка, якая праходзіць па правым беразе ракі Патачанкі ад штучнай сажалкі да ўпадзення ў *возера Станіслаўскае.* Працягласць маршруту 5,5 км. Падчас уладкавання экалагічнай сцежкі быў усталяваны жалезны 14-мятровы мост з 4 ліхтарамі на ім.

Таксама на беразе ракі ўсталявана адкрытая альтанка для правядзення заняткаў школьнага экалагічнага атрада і адпачынку мясцовага насельніцтва.

Уздоўж берага ракі пасаджана алея маньчжурскага арэха, якая складаецца з 22 саджанцаў, вырашчаных нашым аб'яднаннем. Па левым беразе ракі школьным экалагічным атрадам каля альтанкі пасаджаны маладыя дубкі.

**Порплішчанскі сельскі выканаўчы камітэт.**

Створаны Порплішчанскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад. У дэндрапарку Порплішчанскай сярэдняй школы ўсталявана адкрытая альтанка для правядзення заняткаў са школьнікамі.

Экалагічная сцежка, якая пачынаецца ў дэндрапарку, працягнута намі да *Варганскай гары* і гідралагічнага заказніка рэспубліканскага значэння *Сэрвач.* Экскурсіі па экалагічнай сцежцы дэндрапарка праводзяць школьнікі Порплішчанскай СШ пад кіраўніцтвам дасведчанага біёлага Маркевіч Ганны Станіславаўны.

На *Варганскай гары* ўсталяваны стол з лаўкамі для правядзення заняткаў са школьнікамі. Была праведзена велізарная праца па ўборцы смецця са схілаў Варганскай гары.

У *в. Варганы* ўсталяваны стэнд з апісаннем Варганскай гары і тры ўказальнікі – "Экалагічная сцежка".

На беразе *возера Сэрвач* абсталявана зона адпачынку: усталяваны дзве распранальні і стол з лаўкамі.

На дадзены момант распрацоўваецца экатурыстычны маршрут на аснове экалагічнай сцежкі: дэндрапарк (Порплішчанская СШ) - Старадаўні парк (в. Сітцы) - в. Ваўкалаты - Старадаўні парк Крыкалы (в. Дунілавічы Пастаўскі р-н) - в. Мосар (Глыбоцкі р-н) - г. Глыбокае - Варганская гара - возера Сэрвач - дэндрапарк (Порплішчанская СШ).

У наш час у Порплішчанской СШ ствараецца музей прыроды. У цэнтры в. Порплішча па беразе вадаёма пасаджана алея верб і ўсталяваны дзве лаўкі.

*Працяг будзе.*



У дэндрапарку Порплішчанскай СШ.

**У лістападзе Паставы наведала польская дэлегацыя на чале з кіраўніком Упраўлення па справах ветэранаў і рэпрэсіраваных Янам Юзафам Каспшыкам. З ім былі дырэктар кабінета кіраўніка Упраўлення Яцэк Палянчык, саветнікі кіраўніка Кшыштаф Вайцяхоўскі і Ян Срока, часовы паверaны ў справах Польшчы ў Беларусі Міхал Хабрас, трэці сакратар Консульскага аддзела Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі Адам Качыньскі.**

# У Паставах адновяць помнік на магіле польскіх жаўнераў

Дэлегацыя наведала помнік-стэлу польскім салдатам і афіцэрам, якія загінулі падчас ваенных дзеянняў 1920 года, пішуць postawy.by. Помнік устаноўлены ў 1934 годзе. Старажылы сцвярджаюць, што гэта інтэрнацыянальнае пахаванне польскіх, нямецкіх і рускіх салдат. Пасля Вялікай Айчыннай вайны помнік спрабавалі разбурыць танкам, але не ўдалося. Былі скінуты арол і мемарыяльная дошка з надпісам на польскай мове «Загінулым салдатам у абароне Айчыны».

«Я займаюся справамі ветэранаў. Ім важна ведаць, што ў іншых краінах свету месцы пахаванняў польскіх салдат не забыты, — сказаў Ян Юзаф Каспшык. — Сярод нас прысутнічае Багуслаў Нізеньскі, які з'яўляецца старшынёй савета ветэранаў Упраўлення. Ён кавалер вышэйшай дзяржаўнай узнагароды Польшчы — ордэна Белага Арла. Бацька пана Багуслава прымаў удзел у савецка-польскай вайне 1919-1920 гадоў, таму яму вельмі хацелася наведаць Паставы. Памяць пра продкаў важная і для маладога пакалення. Гісторыю не перапішаш, але яе веданне можа дапамагчы пазбегнуць новых памылак. Наша Упраўленне, Міністэрства культуры, урад Польшчы зацікаўлены ў тым, каб месцы пахавання нашых землякоў мелі прыстойны выгляд. Спадзяёмся, што разам з вамі зможам адрэстаўраваць і помнік у Паставах».

***nn.by***







**Помнік на магіле польскіх жаўнераў. Гістарычны і сучасны выгляд.** Фота postavyiokrestnosti.blogspot.com.by

# Разыскивается Усиков Игорь Олегович



Полоцким РОВД разыскивается **Усиков Игорь Олегович,** 08.01.1987 года рождения, уроженец Российской Федерации Пермской области, Красновишерский р-н, п.Вишерогорск, зарегистрированный по адресу: Витебская область, Глубокский р-н, агрогородок Ломаши, пер. Центральный, 7-4, гражданин Республики Беларусь, обвиняемый в совершении преступления предусмотренного ч.1, ст.339 УК Республики Беларусь и скрывшийся от следствия.

Приметы разыскиваемого: высокого роста (около 185 см.), среднего телосложения (вес около 80 кг.), волос короткий русый, залысин не имеет, лицо овальное, брови густые прямые, глаза светло-карие, нос искривлен вправо. Особые приметы: на голове в височной части имеется шрам (вид длина и размеры не установлены), размер обуви 43.

Фотографию разыскиваемого можно получить в социальной группе Интернета «В Контакте» «Поиск розыск 1 Полоцк и Новополоцк».

Наши контактные телефоны: 426084, 422151, 8-029-7130227, 102.

*В.Н. Воробьёв, начальник Полоцкого РОВД, полковник милиции*

## У Беларусі знайшлі дакумент пра сваякоў Дональда Трампа

**Дзякуючы знойдзенаму дакументу, род зяця Трампа атрымалася прасачыць да пачатку XIX стагоддзя.**

У Беларусі знайшлі дакумент пра сваякоў Дональда Трампа, абранага прэзідэнтам ЗША.

Пра гэта распавёў дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Уладзімір Адамушка, перадае "Еўрарадыё".

Па яго словах, продкі зяця Трампа Джарэда Кушнера, габрэі, жылі ў Навагрудку.

Дзякуючы знойдзенаму дакументу, род Кушнераў атрымалася прасачыць да пачатку XIX стагоддзя. Гэта былі рамеснікі - краўцы.

Дзед Кушнера спецыялізаваўся на вырабе галаўных убораў. Падчас нямецкай акупацыі ён быў у партызанскім атрадзе Бельскага.

Па словах Адамушкі, беларускія архівісты знайшлі дакумент, у якім адзначаецца, што Зайдель Кушнер 1 траўня 1943 года атрымаў падзяку ад камандзіра атрада. Пасля вайны ён патрапіў на Захад.

*Паводле "Еўрарадыё".*

# Сям'я – адзін з шэдэўраў прыроды

*"Разумная жонка! Калі хочаш, каб муж твой вольны час праводзіў побач з табою, то пастарайся, каб ён ні ў якім іншым месцы не знаходзіў столькі дабroты, задавальнення, сціпласці і пяшчоты"* .

*Піфагор*

*"Большая часть мужчин требует от своих жен достоинств, которых сами они не стоят"* .

*Лев Толстой*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Ніхто нас не прымушае да заключэння шлюбу, але кожны павінен падпарадкоўвацца законам шлюбу, таму што добраахвотна ўступіў у шлюб. *"Мудрым, так, мудрым быў той..., хто першы даў запаведзь людзям: кожны няхай сабе жонку роўню бярэ! І будзе шчаслівы,"* – вучыў нас яшчэ 2500 год таму назад старажытнагрэчаскі паэт-трагік Эсхіл.

У маладосці ў кожнага юнака і дзяўчыны наступаюць самыя адказныя моманты – гэта выбар спадарожніка жыцця. Таму што ад гэтага выбару залежыць шчасце і дабрабыт на ўсё жыццё. Я дазволю сабе прапанаваць адну прыпавесць, каб выбраць сабе жонку.

Бацька і яго 18-гадовы сын сядзелі ў краме і чакалі, пакуль прымяраюць пакупкі іх сястра і мама. На часопісным століку ляжала некалькі модных глянцавых часопісаў, на вокладках якіх былі гламурныя твары дзяўчат-мадэляў.

– Тата, а ці праўда, што хлопцы звычайна, калі выбіраюць сабе дзяўчыну, глядзяць у першую чаргу на твар?

– Гэта толькі дурні ў першую чаргу глядзяць на твар, – адказаў яму бацька.

– Калі дурні глядзяць на твар, то на што ж тады ў першую чаргу глядзяць мудрацы? – запытаў сын.

– Калі ты хочаш маёй парады, то запамінай: разумны глядзіць у першую чаргу на сэрца дзяўчыны – таму што толькі добрае сэрца здольна любіць да скону жыцця, шчыра і верна, а знешняя прыгажосць хуткацечна і з гадамі знікае. Да таго ж, не прыгажосць дорыць сапраўдную радасць – радасць ад яе хутка праядаецца. Сапраўдную радасць, запомні сын, дорыць любоў і дабрыня, да якіх нельга прывыкнуць і якія ніколі не надакучаць.

Затым мудры глядзіць на рукі дзяўчыны, таму што працалюбівыя жаночыя рукі змогуць паклапаціцца аб утульнасці і дабрабыце дома. Нарэшце, мудры глядзіць на тое, што і як гаворыць дзяўчына, – таму што мова, як люстэрка, адлюстроўвае яе розум, інтарэсы, выхаванне, характар і іншыя якасці розуму і душы. Калі яе мова поўная дабрыні, павагі, мудрасці, то яе словы змогуць ствараць і лячыць, а не разбураць адносіны.

Так робяць мудрыя людзі. А дурні падманваюцца, купляючыся на прыгожую абгортку, звяртаючы ўвагу толькі на прыгожыя твары такіх дзяўчат, як на гэтай вокладцы. Аднак, пазнаёміўшыся бліжэй з такімі прыгажунямі, яны праз нейкі час раптам бачаць, што за знешняй прыгажосцю хаваецца духоўная пустата і шэрасць. І тады яны расчароўваюцца ў сваім выбары. І з расчараваннем і болем у сэрцы выкідваюць такіх дзяўчат са свайго жыцця – вось як гэты пусты без зместу часопіс.

– Дзякуй, тата! – сказаў сын. – Я пастараюся гэта заўсёды памятаць.

Я далёкі ад думкі, што гэта прыпавесць шмат каму дапаможа стварыць моцную, шчаслівую сям'ю. Але калі хоць бы для адной сям'і яна прынясе карысць, то мая праца, як і праца газеты, будзе не марнай. А гэта ўжо вельмі добра!

У наш час хлопцы шукаюць нявестаў, а дзяўчаты жаніхоў па іншых прынцыпах. А наколькі гэтыя прынцыпы эфектыўныя адзнаку дае жыццё. На жаль, амаль кожны другі шлюб распадаецца. Многія дзеці застаюцца без бацькі. Выхоўваюць іх мамы і вуліца. Вось чаму ў нас мала Рамэа і Джульет. І хоць упрошвае Валянцін Гафт Юрыя Візбара праспяваць "Аб жаночай цеплыні і мужнасці мужчын", але невялікай застаецца колькасць жанчын, здольных адарыць сапраўднай цеплынёй мужоў, і яшчэ менш застаецца мужных мужчын. У каго ж хлапчуку, якога пакінуў тата, вучыцца мужнасці? У адзіночкі-мамы, якая ў вечным клопаце, як матэрыяльна забяспечыць сям'ю? Вось і навучаецца ён "майстэрству галоўнаму ў сям'і" на вуліцы.

Нармальная сям'я – ці ёсць большае шчасце ў чалавека? Кажуць, "шчасце на чужым няшчасці не пабудуеш". Праўдзіва і тое, што нельга пабудаваць шчасце іншага на асабістым няшчасці. Нельга навучыць любові, не любячы сябе: бо мы вучылі сваіх дзяцей не маральнымі гутаркамі і павучаннямі, а асабістым прыкладам, сваімі паводзінамі, тым, як мы паступаем у рэальным жыцці. Вось і атрымоўваецца, што мы быццам ператвараем сябе ў ахвяру дзеля знешняга сямейнага дабрабыту. Хто думае так, ён глыбока памыляецца.

Калі чалавек ахвяруе сабой дзеля дабрабыту каханага, але якога не кахае, то такое рашэнне нельга назваць мудрым. Усялякая ахвяра апраўданая толькі ў тым выпадку, калі яна, па-першае, добраахвотная, і, па-другое, калі яна павялічвае колькасць любові, радасці, шчасця на Зямлі. Тым, каго мы кахаем, і хто кахае нас, не патрэбны ніякія ахвяры. Каханне, сапраўднае каханне, а не часовае захапленне, не мае патрэбы ні ў якіх ахвярах. Калі жонка патрабуе нейкіх ахвяр ад мужа, то гэта яўная прыкмета таго, што яна наўмысна заганяе яго пад свой абцас. "Падкаблучнік" шчаслівым не можа быць сам, ён ніколі не зробіць шчаслівай сям'ю. Шчаслівая сям'я павінна будавацца на ўзаемным каханні. Узаемнае каханне без узаемнай падсілкавання гасне, а можа і наогул знікнуць.

На жаль, гэта адна з асноўных прычын, калі знікае ўзаемнае каханне, а можа яго з самага пачатку і не было, бо нейкую ілюзію, часовае захапленне прынялі за каханне, спадабалася разам праводзіць час у пасцелі, а наяўнасці духоўнай блізкасці не ўлічылі, а без духоўнага адзінства ніколі не было сапраўднага кахання. Проста цялесная блізкасць увайшла ў звычку, а потым усё гэта надакучыла, на гарызонце з'явіўся іншы, больш цікавы аб'ект. Прыйшло расчараванне, развод, і дзеці папалам. Так што, хоць сям'я адзін з шэдэўраў прыроды, але ён патрабуе кожны дзень клапатлівага догляду.



# Моладзь разам з гуртам "Рыбы" адзначыла "Андрэйкі" ў Глыбокім

**У апошнюю суботу перад Адвэнтам, 26 лістапада ў Глыбокім сабралася моладзь на "Андрэйкі" з музычна-евангелізацыйнай праграмай "Святы любіць Бога".**

Разам са сваімі святарамі і законнымі сёстрамі маладыя людзі прыбылі з Варапаева, Браслава, Мёраў, Чарневічаў, Полацка, Наваполацка, Друі, Ідолты, Мілашова, Шаркоўшчыны, Падсвілля, Дзеркаўшчыны, Удзела, ну і, вядома, прысутнічалі самі глыбачане. На "запусты" завітаў евангелізацыйны гурт "Рыбы". Для такога незвычайнага мерапрыемства гасцінна расчыніў свае дзверы гарадскі Дом культуры, які змясціў больш за 160 прысутных.

На самым пачатку арганізатар "Андрэек", пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім кс. Мікалай Ціхановіч шчыра прывітаў моладзь і запрасіў, каб усе свае здольнасці, энергію і энтузіязм аддалі на славу Божую і падзяліліся гэтым настроем адзін з адным. *"Пакажыце, што хрысціяне ўмеюць жыць, умеюць радавацца і будаваць планы, што святасць – гэта не сум, не жалоба. Мы сабраліся сёння разам, каб паказаць адзін аднаму, што быць святым – гэта быць радасным, мець у сабе надзею на заўтрашні дзень, мець свае моладзевыя планы"*, – заклікаў святар.

Распачалося мерапрыемства сцэнкай "Дзяліся міласэрнасцю", якую прадставілі гаспадары. У танцах, конкурсах і забавах запрашала браць удзел сястра Марыяна Гроць з Варапаева.

Пасля творча-актыўнай часткі моладзь запрасілі падсілкавацца, а пасля ўсе накіраваліся ў канцэртную залу, дзе іх чакаў канцэрт гурта "Рыбы".

Евангелізацыя праз спеў і музыку вельмі важная для сучаснай моладзі. Хлопцы і дзяўчаты не маглі сядзець на сваіх месцах, устаўшы і ўзняўшы рукі ўгору, яны спевам і танцам праслаўлялі Хрыста.

Паўліна Жых з праекта "Рыбы" жадае моладзі на перыд Адвэнту: *"... каб супакоіліся крыху, не былі такімі актыўнымі, як на канцэрце, але каб не згубілі гэты запал, бо моладзь Віцебскай дыяцэзіі мае свой асаблівы дух"*.

Кс. Мікалай Ціхановіч адзначыў: *"Усе інвестыцыі і душпастырскія праекты для інтэграцыі і евангелізацыі моладзі – гэта найбольш актуальныя праблемы, якія Касцёл павінен заўсёды вырашаць і быцьадкрытым. Сённяшняя вечарына паказвае, што моладзь сапраўды хоча праслаўляць Хрыста і быць разам. Касцёл павінен быць адкрытым для патрэбы моладзі. Мы павінны шанаваць глыбокую традыцыю, але не марнаваць час, які патрэбны для маладых людзей"*.

Пасля канцэрту ўдзельнікаў "запустаў" чакала дыскатэка.

*Паводле catholicnews.by*



# Напэўна, у такіх паляўнічых зайцы з капытамі

**Ахове прыродных багаццяў нашай дзяржавы надаецца асаблівае значэнне, бо вельмі прыгожая і вельмі багатая прырода патрабуе аховы і беражлівых адносін.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Розными прыродаахоўнымі службамі штотыдзень затрымліваюцца дзясяткі парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, якія падвяргаюцца значным штрафам і іншым пакаранням, аж да пазбаўлення волі.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету сістэматычна інфармуе грамадзян аб затрыманых парушальніках і адміністрацыйных мерах, прынятых да іх.

І ўсё ж у інспектараў не бывае ні аднаго тыдня, каб яны не затрымалі "гарачага хлопца", які хоча пагуляць з законам у кошкі-мышкі.

Так, 23 лістапада гэтага года пры правядзенні палявых кантрольных мерапрыемстваў на тэрыторыі Пастаўскага раёна супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі каля 8 гадзін на возеры Паўднёвая Гута затрыманы жыхар г.п. Варапаева, які, пры дапамозе забароненай прылады рыбалоўства, стаўной лёсачнай сеткі, ажыццяўляў здабычу рыбы, здабыў адну асобіну ляшча. Матэрыялы накіраваны ў раённы суд.

25 лістапада на возеры Маленькая Пліса Глыбоцкага раёна затрыманы жыхар г. Глыбокае, у аўтамашыне якога выяўленая лёсачная сетка. З тлумачэнняў затрыманага ён вазіў сетку проста так, а вось, што ён робіць у 18 гадзін вечара на возеры, патлумачыць не змог. Складзены адміністрацыйны пратакол, які накіраваны ў раённы суд.

Працягваецца сезон палявання на пушнага звера, але асобныя паляўнічыя палююць на зайца, лісу, янота забароненымі спосабамі, дакладней з патронамі, зараджанымі карцеччу і кулямі. Усім паляўнічым зразумела, што калі стрэльнуць па зайцу куляй і трапіць, то застанецца толькі поўсць. Згодна з правіламі палявання, пры паляванні на пушных звяроў забаронена выкарыстанне, нашэнне карцечы і куляў, але штотыдзень інспектары затрымліваюць такіх "зайчатнікаў".

26 лістапада 2016 года ў паляўнічых угоддзях ТАА "Старт" (Мінскі раён) затрымана 5 жыхароў Глыбоцкага раёна, у якіх пры сабе і ў стрэльбах былі кулі і карцеч, нягледзячы на тое, што паляванне яны ажыццяўлялі на зайца, напэўна ў такіх паляўнічых зайцы з капытамі. Аднак, інспектары перапынілі незаконнае паляванне, канфіскавалі 6 стрэльбаў, склалі адміністрацыйныя пратаколы, якія накіраваны ў раённы суд. Парушальнікам пагражае пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, пазбаўленне спецыяльнага права (права палявання) і канфіскацыя зброі.

**Увага: змяніліся працоўныя тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 55970 – інспектары (кругласутачна), 5-5980 – начальнік інспекцыі.**

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон "гарачай лініі" Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 8-02156-55970, мабільныя тэлефоны інспектараў: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).



**Браканьеры ў Магілёўскай вобласці.** *Фота з сайта bobrlife.by*

# "Эканомнаму" паляўнічаму прыйдзецца раскашэліцца

**Схільнасць да браканьерства, на жаль, не такая рэдкая хвароба некаторых паляўнічых, якія ў абыход закона хочуць атрымаць паболей здабычы.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Жыхар вёскі Савуткі ў паляўнічай гаспадарцы Шаркаўшчынскай структуры Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў набыў сезонную пуцёўку на бабра.

Карыстаючыся неабмежаваным доступам да ўчастка, паляўнічы ў цікім месцы ўладкаваў падкормачную пляцоўку для капытных, а побач з ёй – самаробную вышку, з якой падстрэліў казулю.

Здабычу браканьер паспяшаўся даставіць дадому, аднак не ведаў, што па слядах ужо ідуць дзяржінспектары. Парушальніка ўзялі ў вёсцы з доказамі злачынства. Зараз "эканомнаму" паляўнічаму прыйдзецца раскашэліцца на 2,5 тысячы рублёў і адказаць па крымінальным артыкуле, яго стрэльба і карабін канфіскаваныя.

*gosinspekciya.gov.by*

*Фота з сайта інспекцыі*





# Меры бяспекі пры выкарыстанні электраабагравальнікаў



**Пры куплі ацяпляльнага прыбора вельмі важна, каб ён не толькі добра абаграваў памяшканне, але і быў бы бяспечны ў эксплуатацыі! Большасць сучасных абагравальнікаў абсталяваны адмысловымі ахоўнымі сістэмамі, што папярэджваюць негатыўныя наступствы няправільнага ці неасцярожнага выкарыстання. Тым не менш, нагадаць аб мерах бяспекі ніколі не будзе лішнім!**

■ **А. Сіўко,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Каб пазбегнуць непрыемнасцяў і няшчасных выпадкаў пры выкарыстанні электрычных абагравальнікаў, трэба прытрымлівацца наступных правілаў.

■ Ні ў якім разе не ўсталёўваць абагравальнік на мэблю, тым больш, мяккую! Ставіць прыбор варта на падлогу. У выпадку з канвектарамі, іх можна мацаваць на спецыяльных падстаўках на невялікай адлегласці ад падлогі.

■ Незмяшчайце сеткавыя правады абагравальніка пад дываны і іншыя пакрыцці. Не стаўце на правады цяжкія прадметы (напрыклад, мэблю), інакш абагравальнік можа перагрэцца і стаць прычынай пажару!

■ Пераканайцеся, што штэкер усталёваны ў разетку шчыльна! Інакш ён можа перагрэцца. Уважліва прачытайце інструкцыю па эксплуатацыі абагравальніка, а менавіта раздзел дапушчальных параметраў току для сілкавання прыбора. Пераканайцеся, што ён падыходзіць па гэтых параметрах.

■ Не выкарыстоўвайце абагравальнік ў памяшканні з лака-фарбавымі матэрыяламі, растваральнікамі і іншымі лёгкаўзгаральнымі вадкасцямі. Таксама нельга ўсталёўваць электраабагравальнік ў захламленых і засмечаных памяшканнях.

■ Сачыце за станам ацяпляльнага прыбора: своечасова рамантуйце і замяняйце дэталі, калі яны выйшлі са строю. Мяняйце засцерагальнікі, разбоўтаныя або дэфармаваныя штэкеры. Памятаеце, што карыстацца няспраўным абагравальнікам ні ў якім разе нельга!

**Напярэдадні халадоў ўсе вышэйпералічаныя меры засцярогі асабліва актуальныя!**



